# НАША СВАБОДА

№29(116) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

**19 САКАВІКА 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК**

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

**КОШТ СВАБОДНЫ**







# «Зубр» задае пытанні




Фота Ул.ШЛАПАКА

Графіці на агароджы Мінскага завода халадзільнікаў уздоўж «прэзідэнцкай» трасы Мінск-Дразды

## Дзень Волі на выгульным полі не святкуюць

*19 сакавіка заяўнікі масавай акцыі, планаванай на 25 сакавіка, Дзень Волі, абскардзяць адмову Мінгарвыканкама ў святкаванні 83-й гадавіны ўтварэння БНР ў Маскоўскім судзе Мінска.*

Мінскі гарвыканкам адмовіў арганізатарам Дня Волі адсвяткаваць 83-ю гадавіну абвяшчэння БНР у цэнтры горада. Замест дазволу, як і прагназавалася, мінскія ўлады адправілі шэсце на плошчу Бангалор (так званы «выгул для сабак»). Між тым, яшчэ на першым паседжанні аргкамітэт па святкаванні Дня Волі і «Чарнобыльскага шляху-2001» катэгарычна адмовіўся павесці людзей на месца выгулу сабак.

Заяўку на Дзень Волі, падпісаную 108 чалавекамі, падалі ў гарвыканкам 7 сакавіка. Падпісанты прасілі дазволу 25 сакавіка, у дзень ўтварэння «першай дэмакратычнай беларускай рэспублікі», правесці ў цэнтры Мінска, дзе абрываліся падзеі 83-гадовай даўнасці, дэманстарцыю, мітынг і канцэрт пад лозунгам «Жыве незалежная, заможная, дэмакратычная еўрапейская Беларусь!». Месцам збору называлася Юбілейная плошча побач са станцыяй метро «Фрунзенская» ў 14.00. У 14.30 каля 7 тысячаў чалавек мусілі распачаць дэманстрацыю па маршруце Юбілейная плошча – вуліца Раманаўская слабада – вуліца Гарадскі вал – праспект Скарыны – вуліца Леніна – плошча Свабоды. Менавіта на плошчы Свабоды з 15.00 да 18.00 запланаваны мітынг і канцэрт.

«25 сакавіка – найбольшае свята для ўсіх беларусаў – гэта нацыянальны дзень, таму святкаванне будзе праходзіць па фармаце, указаным у заяўцы. Аднак замест заяўленых дзеянняў мерапрыемства будзе праходзіць у форме народных гулянняў, якія не патрабуюць ніякіх санкцыяў гарвыканкама. Збор людзей будзе а 14-й гадзіне на Юбілейнай плошчы », — заявіў Вячаслаў Сіўчык.

**Рыгор БУЯН**

## Місія ЗША ўжо ў Мінску

18 сакавіка ў Мінск з трохдзённым афіцыйным візітам прыбыла ўрадавая дэлегацыя Злучаных Штатаў Амерыкі. Намеснік памочніка Дзяржсакратара ЗША па справах СНД Джон Пернэл і дырэктар Упраўлення па справах Украіны, Малдовы і Беларусі Дзярждэпартамента Грэг Пэрэт плануюць ацаніць бягучую палітычную ды эканамічную сітуацыю ў краіне. Асобную ўвагу высокапастаўленыя амерыканскія чыноўнікі засяродзяць на падрыхтоўцы да прэзідэнцкіх выбараў, якія маюць прайсці сёлета на Беларусі.

Прадстаўнікі новай адміністрацыі ЗША плануюць правесці шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі эканамічных і культурных колаў Беларусі, прадстаўнікамі афіцыйнага Мінска. Па традыцыі, якая склалася падчас такога кшталту візітаў, прадстаўнікі Дзярждэпартамента ЗША мяркуюць сустрэцца з як мага большым колам дэмакратычных арганізацыяў, няўрадавых структураў і незалежных СМІ, жонкамі палітзняволеных і зніклых апанентаў рэжыму, кіраўніком КНГ АБСЕ Хансам-Георгам Вікам ды замежным дыпламатычным корпусам, акрэдытаваным у Мінску.

**Юрась Высоцкі**

## Беларусы на захопленым самалёце

Па ўдакладненых звестках, на борце самалёта Ту-154 «Унукаўскіх авіяліній», захопленага чачэнскімі тэрарыстамі, знаходзіліся не трое, а чацвёра грамадзян Беларусі. Пра гэта 18 сакавіка БелаПАН паведаміў прэс-сакратар міністэрства замежных справаў рэспублікі Павел Латушка. Паводле ягонай інфармацыі, на борце самалёта знаходзіліся:

**1.** Бондарава Людміла Аляксандраўна, 1979 года нараджэння, якая жыве ў Светлагорску (Гомельская вобласць);

**2.** Кузмянок Іна Аляксандраўна, 1981 года нараджэння, якая жыве ў Светлагорску (Гомельская вобласць);

**3.** Чыж Міхаіл Вітальевіч, 1969 года нараджэння, які жыве ў Горках (Магілёўская вобласць);

**4.** Сцепчанка Ігар Віктаравіч, 1971 года нараджэння, які жыве ў Гомелі.

17 сакавіка ў аэрапорце «Унукава» беларускіх грамадзян сустрэлі супрацоўнікі пасольства Беларусі ў Расіі. Яны былі размешчаныя ў гатэлі беларускага дыппрадстаўніцтва ў Маскве і мелі магчымасць звязацца са сваякамі па тэлефоне.

Чакаецца, што ў другой палове дня 18 сакавіка беларускія грамадзяне выедуць з Масквы цягніком дадому.

**БелаПАН**

## Вайна на дарогах

Паўтары тысячы чалавек забітымі і шэсць з паловай тысяч – пацярпелымі страціла летась Беларусь на сваіх дарогах. Такія лічбы абвясціў начальнік упраўлення Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі Галоўнага ўпраўлення ўнутраных справаў Мінска Анатоль Сідарэня. Па ягоных словах, усяго летась у нашай краіне адбылося 6.410 дарожна-транспартных здарэнняў.

Амаль 11% дарожных катастрофаў – 701 – прыпадаюць на Мінск. У ДТЗ, што адбыліся ў сталіцы, загінула 110 чалавек, параненыя – 689.

Начальнік Мінскай ДАІ паведаміў, што за апошнія 10 гадоў у Беларусі адбылося 73.715 дарожна-транспартных здарэнняў. Пры гэтым, у 70% выпадкаў вінаватыя ў аварыях і сутыкненнях кіроўцы – менавіта іхнія памылкі прыводзяць да трагічнага выніку. Праўда, у сталіцы гэты паказчык меншы – 50%.

Усяго за 10 гадоў у ДТЗ загінула 18.000 чалавек, каля 75.000 – пацярпелі.

Максімальная колькасць аварыяў у Мінску адбываецца ў час з 18.00 да 20.00. Больш за 40% усіх ДТЗ здараецца ў вечаровы час – з 18.00 да 24.00.

Такім чынам, калі верыць звесткам, што паведаміў начальнік Мінскай ДАІ, самы небяспечны час для кіравання машынай у Мінску – вечар пятніцы. У гэты дзень і час лепш не садзіцца за руль. Ды і пешаходам лепш быць больш уважлівымі і асцярожнымі.

**Ірына СТАРЦАВА**

## Чаму затрымліваецца выпуск газеты

*Рэдакцыя мусіць прасіць прабачэння ў сваіх чытачоў і падпісчыкаў за некалькі нумароў газеты, якія да іх не паступілі. Справа ў тым, што друкарня «Мэджык» адмовілася друкаваць нашу газету, і рэдакцыі прыходзіцца шукаць новую паліграфічную базу, што для НАШАЙ СВАБОДЫ няпроста.*

*Вонкавая сутнасць канфлікту палягае на непаразуменні паміж фірмай «Мэджык», якая друкуе каля 15 газет на арандаваным абсталяванні, і фірмай «Знамение», якая з'яўляецца ўласнікам друкарскага станка: «Мэджык» не плаціў арэнду «Знамению» каля васьмі месяцаў. Два месяцы таму кіраўнік фірмы «Знамение» спадар У.Дашук пісьмова папярэдзіў кіраўніка фірмы «Мэджык» спадара Ю.Будзько, што скасоўвае дамову на арэнду друкарскага абсталявання з 12 сакавіка 2001 года, бо «Мэджык» не выконвае свае абавязкі. Ю.Будзько мусіў быў ці развязаць праблему са «Знаменцем», ці папярэдзіць газеты, якія друкаваў, каб шукалі другую друкарню. Гэтага не было зроблена. Для незалежных газет уладкавацца ў друкарню — вялікая праблема. І створана яна менавіта дзяржавай: прыватныя друкарні адмаўляюцца друкаваць газеты, апазіцыйныя рэжыму, бо абавязкова атрымаюць непрыемнасці ад падатковай інспекцыі ці фінансавай міліцыі, якія ў нас ёсць карнымі органамі, дзяржаўныя падпарадкоўваюцца загаду зверху. Усім вядомыя складаныя абставіны, у якіх апынуўся «Мэджык» – своеасаблівая рэзервацыя, у якой друкуецца незалежная прэса. Як паказвае практыка, вырвацца з яе здолеў пакуль што толькі спадар Марцаў са сваёй «БДГ». Незалежныя газеты не ў стане вольна мяняць паліграфічную базу і вымушаныя былі карыстацца з паслугаў таго, што «міласціва» дазволілі зверху.*

*Але калі хутка выбарчая кампанія прэзідэнта, улады баяцца і гэтага. Па інфармацыі газеты, загад спыніць друк незалежных газет любым спосабам зыходзіць непасрэдна ад Лукашэнкі. Найбольш проста — пазбавіць іх паліграфічнай базы. У нашым выпадку фінансавыя непаразуменні паміж фірмамі будуць выкарыстаныя афіцыйнай прапагандай для дэманстрацыі свайго недачынення да гэтага прадстаўніку АБСЕ па свабодзе СМІ сп. Дувэ, які прыбудзе ў Беларусь у канцы сакавіка. Але што да друку газетаў у «Мэджыку», то можна спрагназаваць, што ў наступны панядзелак там не будзе надрукаваная ніводная.*

*Пакуль пазнаёміцца з папярэднім нумарам газеты можна ў інтэрнэце, але спецыяльна для нашых падпісчыкаў выпуск, які мы не маглі надрукаваць на паперы, будзе надрукаваны і дастаўлены праз пошту. Яшчэ раз прабачаемся.*

**Галоўны рэдактар Павел ЖУК**

### НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1300

## Хто каго вучыць?

Незалежнаму назіральніку падаецца часам немагчымым, каб Лукашэнка — кіраўнік краіны — гэтак адчайна не паважаў культуру і мову таго народа, якім яму давялося кіраваць амаль сем гадоў. Калі нават прыняць, што ён не беларус. Калі нават усведаміць, што ён усе гэтыя гады высільваўся паказваць найвялікшую аддатнасць Маскве, якая, як вядома, баіцца арыентацыі сваіх суседзяў на ўласныя нацыянальныя інтарэсы. Здаецца неверагодным, што чалавек, які ўсё сваё жыццё пражыў у Беларусі, можа гэтак зневажаць адну з самых прыгожых славянскіх моваў. І словам, і справай, і сваімі разбэшчанымі й нахабнымі хаўруснікамі.

Але ж мы часта бачым перад сабой характэрны прыклад недавука — звычайнай і шырока распаўсюджанай фігуры постсавецкай прасторы, прыклад саўдэпаўскага эрзац-інтэлігента, вузкага, ідэалагічна задуранага спецыяліста, — тып, створаны і ўзгадаваны сістэмай народнай адукацыі. Бярэмя такіх кадраў нарабілі ў свой час сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы былога СССР, асабліва на завочных аддзяленнях. А на перыферыі, каб паступіць у навуку, атрымаць залік або добрую адзнаку за якую дысцыпліну, будучыя савецкія інтэлігенты цягнулі пад пахамі да выкладчыкаў свіныя плечы, каўбасы, гарэлку. Многія выкладчыкі (і не толькі перыферыйных навучальных устаноў) набылі за гады саўдэпаўскай бяскорміцы і калектыўнага п'янства блішчастыя чырвона-сінія насы. Уявіце сабе, якіх спецыялістаў народнай гаспадаркі, якіх настаўнікаў яны навыхоўвалі. Нездарма ж Лукашэнка сваё праўленне пачаў з праверкі экзаменаў у школах ды інстытутах. Сам прайшоў праз адпаведную адукацыю ў Магілёве і стаў спецыялістам такога шырокага профілю, што ніхто дакладна не скажа, якой ён прафесіяй валодае. Нешта, быццам, вывучаў па гісторыі і эканоміцы. Ды якасць гэтай навукі мы ўжо так на сабе адчулі, што, здаецца, каб дзе пабачыў таго выкладчыка, які яго вучыў...

Недавук ад вучонага адрозніваецца тым, што думае, быццам ведае ўсё на свеце. Няма пытання, на якое ён не дасць аднаго, але правільнага адказу. Рэфлексія «я ведаю, што нічога не ведаю» яму не ўласцівая. Ён жа вучыўся і атрымаў дыплом! Яго ўжо прызналі за адукаванага чалавека, а калі да гэтага дадаць рэгулярнае «чценіе періадзічэскай печаці» ды курсы марксізму-ленінізму... Уга!

Але вернемся да пачатку нашага роздуму. Маем факт, што настаўніца вучыла некалі маленькага Сашыка беларускай мове. Вучыла любіць Радзіму, паважаць старэйшых, быць добрым і чулым хлопчыкам. Потым іншыя настаўнікі і выкладчыкі вучылі яго пятнаццаць гадоў таму, што ведалі самі. А зараз выхаванец (квінтэсенцыя сваіх настаўнікаў) вучыць іх жыць на тры грошы ў дзень, быць цынічным, нахабным, таптаць беларускую мову, хлусіць і гандляваць Радзімай. Дык хто з іх лепшы педагог?

Аляксандр ДУБРАВІН

## Пасяўная — час раскашэльвацца

Беларускія ўлады ўжо чарговы год заняліся веснавой парой прымусова-добраахвотным зборам грошай на патрэбы аграпрамысловага комплексу. Днямі Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт «Аб павелічэнні памеру адзінага плацяжу». Тлумачыцца, што ён з'явіўся «ў мэтах паляпшэння фінансавага забеспячэння веснавых палявых работ».

Паводле дэкрэта, юрыдычныя асобы мусяць да 30 чэрвеня сплачваць адлічэнні ў рэспубліканскі фонд падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі, харчавання і аграрнай навукі і адлічэнні сродкаў карыстальнікамі аўтамабільных дарог у дарожныя фонды адзіным плацяжом у памеры 2,4% выручкі ад рэалізацыі тавараў і паслугаў. З прадпрыемстваў, якія займаюцца гандлем, а таксама ажыццяўляюць нарыхтоўчую дзейнасць і дзейнасць па аказанні паслугаў, гэты адсотак будзе спаганяцца з валавага даходу, а з страхавых арганізацыяў — і з балансавага прыбытку. З адзінага плацяжу на адлічэнні, так бы мовіць, сельскагаспадарчыя прыпадае прыкладна 58%, а на дарожныя — 42%.

У каментарыі да дэкрэта даводзіцца, што павелічэнне адзінага плацяжу на тэрмін да 30 чэрвеня дасць магчымасць прыцягнуць да веснавых палявых работ дадаткова 24 мільярды рублёў. Усяго ж у аграпрамысловы сектар неабходна будзе накіраваць 560 мільярдаў рублёў. Праўда, 200 мільярдаў рублёў плануецца пакрыць праз рэалізацыю выробленай за гэты перыяд сельскагаспадарчай прадукцыі. Дэфіцыт у выніку складзе 360 мільярдаў рублёў. На гэтую вясну калгасам і саўгасам трэба 850 тысячаў тонаў мінеральных угнаенняў на суму 110 мільярдаў рублёў, 300 тысячаў тонаў дызельнага паліва коштам 170 мільярдаў рублёў, апрача таго, 100 мільярдаў рублёў пойдзе на раслінаахоўніцтва.

Кірэй МАНУЙЛА

## Апекуна Ірландыі шанавалі ў Мінску

Фота Ул.ШЛАПАКА

У суботу ў парку Горкага ў Мінску адбыліся марш і канцэрт у гонар Дня святога Патрыка, які адзначаўся ў рамках Дзён Ірландыі ў Беларусі. Калона з 300-400 чалавек, многія з якіх былі апранутыя ў самыя неверагодныя карнавальныя касцюмы, з трохколернымі зялёна-бела-аранжавымі сцягамі Ірландыі весела і шумна прайшла па алеях парку. Потым на эстрадзе каля цэнтральнага ўваходу адбыліся канцэрт беларускіх музыкантаў і танцы пад адкрытым небам. Жадаючыя — а такіх знайшлося нямала — маглі пафарбаваць прычоску ў традыцыйны ірландскі зялёны колер.

Вядучая канцэрта Людміла Дзіцэвіч — прадстаўнік дзіцячага фонду «Сакавік». Дні Ірландыі ў Беларусі арганізаваны іх фондам сумесна з таварыствам «Беларусь — Ірландыя» і Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, а таксама пры садзейнічанні яшчэ шэрагу арганізацыяў. Стаўшае міжнародным ірландскае свята ў Беларусі праводзіцца ўжо трэці год. Сёлета ў Беларусь прыбыла прадстаўнічая дэлегацыя з Ірландыі — 60 чалавек. Многія з іх удзельнічаюць у аказанні дабрачыннай дапамогі беларускім дзецям, пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы, бяруць іх у свае сем'і і выхоўваюць па шмат гадоў.

Адным з такіх людзей з'яўляецца ўдзельнік Дзён Ірландыі ў Беларусі Брэндан О'Браен. Ён казаў, што ірландцы вельмі падобныя на беларусаў. «Яны ведаюць, як атрымліваць асалоду ад свайго жыцця і святкаваць святы. Але нашы праблемы таксама шмат у чым падобныя — і эканамічныя, і палітычныя. Некалькі дзесяцігоддзяў таму сітуацыя ў Ірландыі была вельмі падобная на беларускую, таму мы разумеем вас і хочам дапамагчы». Паводле яго словаў, зараз у Ірландыі рэалізуецца праграма, згодна з якой штогод у гэтую краіну запрашаюцца 3-4 тысячы беларускіх дзяцей, прычым, з кожным годам гэтую праграму плануецца пашыраць.

Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.

## Адкрыты Літоўскі цэнтр культуры

18 сакавіка ў вёсцы Рымдзюны Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці праходзіць афіцыйная цырымонія адкрыцця Літоўскага цэнтра культуры, адукацыі і інфармацыі. Ад беларускага боку ўдзел у адкрыцці цэнтра бярэ старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Аляксандр Білык, з літоўскага — Рэмігіюс Мотузас, генеральны дырэктар Дэпартамента нацыянальных меншасцяў і эміграцыі пры ўрадзе Літвы.

Сёння таксама плануецца падпісаць міждзяржаўны Пратакол аб супрацоўніцтве на 2001 год. Падпісаннем пратакола прадугледжваецца актывізацыя сумеснай працы па падтрымцы дзейнасці грамадскіх арганізацыяў беларусаў Літвы і літоўцаў Беларусі, шырокі абмен інфармацыяй, вопытам працы, правядзенне шэрагу сумесных мерапрыемстваў.

Павел МАЖЭЙКА, БелаПАН.

## Прадукцыя беларускага ВПК на выставе

Больш за 40 краінаў свету, у тым ліку і Беларусь, прадставяць распрацоўкі свайго ваенна-прамысловага комплексу на Міжнароднай выставе ваеннай тэхнікі і абаронных тэхналогіяў «*IDEX*-2001», якая адкрылася 18 сакавіка ў сталіцы Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. У прыватнасці, рэспубліка на ёй будзе прадстаўлена прадпрыемствам «Мінатор-сервіс», якое прадэманструе доследны ўзор баявой разведвальна-дыверсійнай машыны «2Т», Беларускім оптыка-механічным аб'яднаннем, ААТ «Пеленг», НПА «Агат», Мінскім заводам колавых цягачоў і 140-м барысаўскім танкарамонтным заводам. Беларускую дэлегацыю на выставе ў Абу-Дабі ўзначальвае міністр абароны рэспублікі генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў.

Адным з найбуйнейшых удзельнікаў выставы як звычайна з'яўляецца Расія. Паводле звестак БелаПАН, Федэральнае дзяржаўнае унітарнае прадпрыемства (ФГУП) «Росабаронэкспарт» прадставіць на Міжнароднай выставе ўзбраенняў каля 400 экспанатаў распрацоўкі 50 найбуйнейшых прадпрыемстваў і арганізацыяў ваенна-прамысловага комплексу. Расія прадставіць, у прыватнасці, натурны ўзор бронетранспарцёра БТР-90 «Расток», аператыўна-тактычны ракетны комплекс сухапутных войскаў «Іскандэр-Э», комплекс кіруемага ўзбраення «Краснаполь» калібру 155-мм, кіруемы ракетны комплекс «Віхр-М», розныя варыянты якога могуць устанаўлівацца на верталёты, бронетэхніку і караблі, супрацьтанкавы ракетны комплекс «Хрызантэма-С», які валодае павышанай бронепрабівальнасцю і не мае аналагаў за мяжой. Замежным партнёрам прадстаўленыя варыянты мадэрнізацыі ЗРК «Пячора» і ЗСУ «Шылка», выкананыя сумесна з беларускімі прадпрыемствамі. У расійскім павільёне таксама экспануюцца новыя мадыфікацыі сусветна вядомага аўтамата Калашнікава, кулямёт «Печанег», мадыфікацыя пісталета «Гюрза», 9-мм пісталет-кулямёт «Бізон-2-01» пад патрон 9х19, ручныя і падствольныя granata-мёты, бясшумная стралковая зброя, зброя для стральбы пад вадой.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.

## Лукашенко говорит, что против него работают и российские спецслужбы

В специальном выпуске Белорусского ТВ по итогам 8-часового совещания с представителями силовых структур был показан фрагмент выступления Александра Лукашенко, который расценил действия западных и российских спецслужб в Беларуси накануне президентских выборов «как некую охоту».

«У них появился охотничий азарт. Они сегодня закусили удила: и московские, а их там хоть пруд пруди, в том числе и российские, и спецслужбы западные, которые у нас сидят. Они планируют и разворачивают широкомасштабные акции против Беларуси. Вы знаете, что нам будет очень сложно им противостоять, но мы должны, и прятаться никто не имеет права», — сказал А.Лукашенко своим силовикам.

Ранее агентство «Ю.С.Ньюс» сообщало, что, согласно сведениям из Кремля, группа московских политтехнологов изучила возможности предвыборной игры против нынешнего руководителя Беларуси. Одна из предполагаемых акций была связана с его президентством в Национальном олимпийском комитете, чье отчетно-перевыборное собрание планируется провести 22 марта. По нашим сведениям, А.Лукашенко все же уйдет с поста президента НОК Беларуси.

Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)

## Разбіўся МіГ-29 беларускай пастаўкі

Самалёт МіГ-29 ваенна-паветраных сілаў Перу разбіўся на мінулым тыдні на поўначы краіны. Катастрофа адбылася ў той момант, калі на адной з ваенных базаў лётчыкі дэманстравалі сваю боегатоўнасць перад дэлегацыяй парламента Перу. Пілот, якому пашанцавала катапультавацца, заявіў, што тэхнічныя непаладкі ўзніклі падчас палёту. На ўзбраенні ваенна-паветраных сілаў Перу маецца 21 самалёт МіГ-29. Па дадзеным камандавання, 16 машын, якія былі набытыя тры гады таму, прызнаныя баяздольнымі, 4 патрабуюць рамонту, а адзін самалёт патрапіў у аварыю два гады назад. Васемнаццаць МіГаў перуанская армія набыла ў Беларусі, яшчэ тры такія самалёты – у Расіі.

## Абнаўленне Мінскага Фронту

17 сакавіка ва Управе БНФ прайшла канферэнцыя Мінскай гарадской арганізацыі Фронту. Замест шматгадовага кіраўніка гарадской арганізацыі БНФ Алеся Бяляцкага, які ўзначальвае праваабарончы цэнтр «Вясна» і Асамблею няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў, новым старшынёй абраны Уладзімір Кішкурна, яго намеснікам стаў Сяргей Міхноў.

У другай частцы канферэнцыі, цалкам прысвечанай палітычнай сітуацыі на Беларусі, гаворка ішла, у асноўным, пра набліжэнне прэзідэнцкіх выбараў. Старшыня БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка падкрэсліў, што менавіта Мінску наканавана адыграць ключавую ролю ў агульнанацыянальнай прэзідэнцкай кампаніі і далейшым развіцці Беларусі. В.Вячорка заклікаў сяброў арганізацыі прыняць найактыўнейшы ўдзел у зборы подпісаў, назіранні, распаўсюджванні інфармацыі, масавых акцыях, працы ў выбарчых камісіях усіх узроўняў.

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

## Затоварились натуральным льном

На Оршанском льнокомбинате грядут большие перемены, связанные с экономическими затруднениями завода: значительное количество работников может попасть под сокращение. На заводе работают около 7.000 человек. Само предприятие является основным плательщиком налогов в местный бюджет, однако, несмотря на все заверения местных и республиканских властей, имевших место в прошлом году, завод не загружен полностью. Есть реальная угроза, что завод вскоре станет вообще. Вторая проблема — затаренность завода (склады забиты продукцией). Уже сейчас применяются меры по увольнению пенсионеров и некоторых других работников завода. Далее, скорее всего под сокращение попадут те работники, которые были приняты на работу после 1995 года: некоторым уже устно предложили искать себе работу. На заводе стоит вопрос о смене руководства.

ПЦ Свободных профсоюзов

## Пачаткоўцы будуць вучыцца 5 дзён

Рэфармаванне сістэмы сярэдняй адукацыі ў Беларусі закране толькі пачатковую школу, паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску міністр адукацыі Васіль Стражаў. Пачынаючы з 1998 года, адзначыў ён, у рамках рэформы ў школах адноўленае навучанне дзяцей з 6 гадоў: на сённяшні дзень 95 працэнтаў дзяцей гэтага ўзросту вучацца ў школах. Паводле словаў міністра, аналагічныя ўмовы навучання існуюць толькі ў Даніі і Англіі. Беларускія дзеці, якія пайшлі ў школу з 1998 года, будуць вучыцца 12 гадоў, прычым з 2002 года для іх прадугледжанае навучанне 5 дзён у тыдзень; усе астатнія пяройдуць на пяцідзёнку толькі да 2008 года. У рамках школьнай рэформы, паводле словаў Стражава, вырашаецца таксама пытанне аб вывучэнні замежных моваў у пачатковай школе. З 2006 года дзеці змогуць вывучаць замежную мову з першага класа.

Праграмай рэфармавання прадугледжаны і змяненні ў ацэначнай сістэме ведаў. Паралельна са звычайнай — пяцібальнай — будзе існаваць дзесяцібальная сістэма.

Вольга АСІПЕНКА, БелаПАН.

## Хадзіць каля КДБ стала небяспечна

Пры ўсёй ейнай доўгачаканасці і мілоснасці з вясной прыходзяць і некаторыя прыкрасці. У сталічным прадпрыемстве «Гаррамаўтадар» прызнаюцца, што прыстойна зараз выглядае хіба што цэнтр Мінска, то бок, прылеглыя раёны да праспектаў Скарыны і Машэрава, а ўскраіны ўяўляюць сабой «відовішча вельмі не прывабнае».

Асаблівы галаўны боль – тое, што «сыпяцца дарогі». Па загадзе мінскага мэра Міхаіла Паўлава бягучы рамонт дарог павінен быць завершаны да 1 траўня.

Але ёсць праблемы і з ходнікамі. У прыватнасці, з адным участкам на нібыта добраўпарадкаваным праспекце Скарыны. Тут на абодвух баках дарогі насупраць будынка КДБ проста катастрафічна буграмі паднялася ходнікавая плітка. Але сама плітка, выробленая па італьянскай тэхналогіі, тут абсалютна ні пры чым. Віна палягае на тых, хто гэтую плітку клаў і не ўлічыў уласцівасцяў глебаў у гэтай мясціне. Надзвычай кепска была выкананая грунтоўка. Таму цяпер хадзіць каля КДБ досыць небяспечна – можна паламаць ногі. Будаўнікі гавораць, што сама сабой плітка не асядзе, і яе давядзецца перакладаць нанова.

Кірыла ПАЗЬНЯК

**КОНКУРС**

## Мінску абяцаюць свой гімн

Да 6 красавіка будзе доўжыцца прыём заявак на абвешчаны ўпраўленнем культуры Мінгарвыканкама конкурс на стварэнне гімна сталіцы. Спачатку пройдзе адборачны тур, пасля якога будзе наладжаны фінальны, дзе будуць разгледжаныя 6 лепшых праектаў. Фінальны тур будзе ўяўляць сабой выкананне гімнавых версіяў салістам пад фартэпіянны акампанемент.

Па ўмовах правядзення конкурсу ўдзел у ім могуць браць як самадзейныя, гэтак і прафесійныя аўтары. Тэкст абавязкова павінен быць напісаны беларускай мовай, «складацца не больш чым з трох куплетаў і адлюстроўваць у сваім змесце гісторыю горада, яго прыгажосць, захапленне і любоў да яго». Асобным пунктам у палажэнні аб конкурсе даводзіцца, што «ў якасці варыянта гімна можа быць выкарыстаная музыка У.Алоўнікава «Песня аб Мінску». Праўда, з новым тэкстам. Тым не менш гаворыцца, што і гэтая мелодыя будзе разглядацца на агульных конкурсных умовах.

Кірыла ПАЗЬНЯК

**ДЫСКУСІІ**

## Рыжскі мір працягвае ўплываць

У Мінску прайшла навуковая канферэнцыя гісторыкаў з Беларусі, Латвіі, Польшчы і Украіны, прысвечаная ўплыву Рыжскага мірнага дагавора на лёсы народаў Усходняй Еўропы. Рыжскі мір завяршыў стадыю ўрэгулявання адносінаў паміж Савецкай Расіяй і яе паўночна-заходнімі суседзямі — Эстоніяй, Літвой, Латвіяй і Фінляндыяй, якія здолелі атрымаць незалежнасць і пазбегнуць вяртання ў Расійскую дзяржаву з бальшавіцкім рэжымам. Падпісаны 18 сакавіка 1921 года, Рыжскі мір падвёў рысу пад савецка-польскай вайной, якую Расія праіграла. Польшча, якая аднавіла незалежнасць у выніку Першай сусветнай вайны, імкнулася вярнуць ранейшыя межы Рэчы Паспалітай, і гэта ёй у пэўнай ступені ўдалося. Расія, пасля няўдалай спробы прывесці ў Польшчу вайсковай сілай марыянетачны ўрад, прагнула законнчыць ваенныя дзеянні і расплацілася з польскім урадам за мір заходнімі беларускімі землямі. Польшча атрымала нашмат большы абшар і большае насельніцтва, чым мела БССР. Менавіта з гэтай прычыны тыя падзеі ў савецкі час або замоўчваліся, або падвяргаліся рэвізіі на карысць камуністычнай ідэалогіі. Прафесар Беластоцкага ўніверсітэта, вядомы даследнік беларускай мінуўшчыны Алег Латышонак у сваім выступленні адзначыў, што ў пачатку 20-х гадоў Юзэф Пілсудскі меў план вырашэння беларускага пытання ў рамках Рэчы Паспалітай – культурная аўтаномія для беларусаў, бо рэалістычна ўспрымаў савецкую Беларусь як буферную зону паміж Польшчай і бальшавіцкай Расіяй. Аднак практыка польскага ўрада была кіраваная на паланізацыю Заходняй Беларусі, асадніцтва, што спрыяла канфліктам і эміграцыі значнай часткі беларусаў у Заходнюю Еўропу і ЗША.

Узʼяднанне Заходняй Беларусі з БССР суправаджалася нацыяналізацыяй зямлі, канфіскацыяй маёмасці і масавымі рэпрэсіямі (было вывезена ў Сібір і на Поўнач Расіі болей за 125 тысяч «кулакоў»). З сярэдзіны 1943 года ВКП(б) узяла курс на канфрантацыю з палякамі, што прывяло да ваенных дзеянняў паміж польскімі і беларускімі партызанамі. Змест Рыжскага міру па сённяшні дзень па-рознаму трактуецца ў розных краінах: палякі лічаць, што Заходнюю Беларусь страцілі, беларускія гісторыкі лічаць Рыжскі мір – змовай двух драпежнікаў, якія разрэзалі краіну і народ папалам дзеля пашырэння сваіх уладанняў.

Аліна ВОЛЬСКАЯ

# Геній і хрыстапрадаўцы

## *Сто гадоў змрочнаму ўчынку царквы – адлучэнню Льва Талстога*

*Руская праваслаўная царква не часта звярталася да такой формы рэлігійнага пакарання, як анафема. Наколькі вядома, спіс адлучаных надта кароткі – ачольнік антыфеадальнага паўстання Пугачоў, крывавы разбойнік Ванька-Каін і крытык дзяржаўнай царквы і ўладаў Леў Талстой.*



Руская праваслаўная царква лічыла за ерэтычны рух.

У праваслаўнай царкве абрад адлучэння здзяйсняецца ў тыдзень свята праваслаўя, а канкрэтна – у нядзелю першай седміцы Вялікага Посту. Сто гадоў таму седміца прыпала на канец лютага, ці па новаму стылю – на сярэдзіну сакавіка. Вось тады Руская праваслаўная царква і адзначыла пачатак 20-га стагоддзя абнародаваннем сінадальнага вызначэння пра тое, што яна не лічыць Льва Мікалаевіча Талстога «сваім членам і не можа лічыць, пакуль ён не пакаецца і не адновіць сваіх адносінаў з Ёй». Ідэя адлучэння сусветна вядомага пісьменніка саспела сярод вышэйшага кліра яшчэ пры жыцці Аляксандра III, але цар не наважыўся дазволіць выкананне гэтай помслівай задумы, не жадаючы дадаваць да славы Талстога «пакутніцкага вянка», а для сябе – славы цемрашала.

Аднак сын Аляксандра, апошні расійскі імператар Мікалай II, такой рызыкай не засмуціўся, хоць і варта было задумацца над палітычнай мэтазгоднасцю сярэднявечнай акцыі ў адносінах да самага аўтарытэтнага чалавека краіны. Магчыма, цар не здолеў супрацьстаяць доказам неабходнасці духоўнага пакарання Талстога з боку праваслаўных іерархаў, надта раззлаваных зместам рамана «Уваскрэшанне», дзе ўшчэнт разбіваліся галоўныя пастулаты «афіцыйнага» хрысціянства. У дадатак увесь ганарар ад продажу гэтага рамана Талстой ахвяраваў духаборам, якіх Руская праваслаўная царква лічыла за ерэтычны рух.

Тэкст адлучэння асабіста напісаў, а потым і падпісаў оберпракурор Святога сінода Канстанцін Пабеданосцаў, настаўнік Аляксандра III і Мікалая II, рэлігійны кансерватар і самы рэакцыйны тагачасны палітык. Па-за царквой (гэта значыць, у рэаліях часу, па-за межамі рэлігійнай, духоўнай супольнасці рускага грамадства) абвяшчаўся геніяльны пісьменнік Расіі, мысліцель, чый уплыў на сучаснікаў прызнаваўся выключным. З пытаннем «Што рабіць?» да Льва Талстога звярталіся тысячы людзей і намагаліся жыць адпаведна адказу – «жыць па праўдзе!» Ніводзін адукаваны інтэлігентны чалавек у Расіі не звяртаўся з такім пытаннем да аўтараў адлучэння, так званых «расаносцаў». Відавочна, што ў праваслаўнай дзяржаве, якой *de jure* была тады Расія, гэтакае рашэнне ўспрымалася найперш як вердыкт вярхоўнай улады аб дзяржаўнай нядобранадзейнасці. Ён не мог быць прыняты без узгаднення з Мікалаем II.

Талстой і не мог лічыцца ўладамі добранадзейным ці хоць бы лаяльным да палітыкі самадзяржаўнага рэжыму. Ён быў адным з нямногіх буйных асобаў Расіі, якія не ўхвалялі падаўленне паўстання 1863 года, захопніцкую вайну ў Чачні, рэлігійныя прыцясненні уніятаў, агрэсіўную палітыку імперыі, сацыяльныя кантрасты і г. д. Яго філасофская публіцыстыка не магла знайсці паразумення з боку кансерватыўнай часткі грамадства – а гэта найперш уладарныя колы і вышэйшы клір.

Талстой сустрэў анафему як чарговы доказ таго, што Руская праваслаўная царква ёсць часткай дзяржаўнага механізма і падтрымлівае імперскія інтарэсы, здраджваючы хрыстовым запаветам. У гэтых адносінах блаславенне царквой войска, блаславенне зброі, выкарыстанне рэлігійных пачуццяў для распалвання міжканфесійнай варожасці Талстой трактаваў як хрыстапрадаўства, як здраду галоўным прынцыпам, якія прынёс на свет для ўсталявання паміж людзей Хрыстос. У гэты ж шэраг станавілася і ганебная залежнасць царквы ад уладаў, амаральнае служэнне кесару, непаважная несамастойнасць кліра, які прэтэндаваў на ролю духоўнага настаўніка народа. Усе разам тэзісы хрысціянскай маралі Талстога выклікалі да яго злосную нянавісць царкоўных князёў, адлітую ў тэксце адлучэння ў абразлівую магчымасць для адлучанага вярнуцца ў адзінства з расаносцамі, калі ён стане перад імі на калені і папросіць літасці за памылкі «іншадумства». Маленькія людзі пры ўладзе заўжды старанна шукаюць магчымасць паказаць свету сваю значнасць ці хоць бы значнасць занятай імі пасады.

Акцыя адлучэння, задуманая фундаменталістамі пачатку стагоддзя, адразу ж сустрэла пратэсты, і апроч нязмыўнай ганьбы арганізатары анафемы нічога не займелі.

Прайшло стагоддзе, і бягучы сакавік даваў добрую нагоду Рускай праваслаўнай царкве выправіць ганебны ўчынак папярэднікаў, зняць з царквы пляму грэху злоснай помслівасці оберпракурора і яго памагатых. Нічога гэтакага не здарылася. Ды і наўрад ці магло здарыцца. Змест сённяшняга царкоўнага служэння нібыта пазычаны з 1901 года. Зноў наперад высунуты інтарэсы дзяржавы, арміі, асвячэнне зброі, блаславенне на забойствы, пашырэнне межаў, варожасць да іншых канфесіяў. Замест прызнання свайго граху ці хоць бы памылкі адносна хрысціянства Талстога Руская праваслаўная царква абвясціла пра залічэнне да ліку святых яго непрыяцеля, цара Мікалая II, таго самага, з чыйго дазволу адбылося дзікунства адлучэння ад Хрыста чалавека, які прапаведваў чысціню яго запаветаў.

Гэтыя два чалавекі — мысліцель і цар — па значнасці асобы непараўнальныя, як гігант і мураш. Але мураш па дынастычных падставах пасядзеў на расійскім троне, і гэта ў рэальнасці стала для царквы ў 2000 годзе адзінай прычынай для залічэння яго ў святыя. Бо пакутніцкую смерць за Першую сусветную і грамадзянскую войны прынялі мільёны людзей. Зноўку руская царква і руская дзяржава зніталіся ў нешта сусьльнае накшталт двухгаловага арла. Але такая еднасць царквы і ўлады зусім не Хрыстова мэта і мара, а супрацьлеглае боскаму запавету ўтварэнне, адступленне ад Хрыста.



Ева АДАМОВІЧ

# От диктатуры к демократии

*Окончание. Начало на стр.5*

Диктатура в основном возникает благодаря распределению власти внутри страны. Население и общество слишком слабы, чтобы создать диктатуре серьезные проблемы, так как богатство и власть сосредоточены в руках слишком небольшого количества людей. Хотя диктатура может выгодно использовать действия международного сообщества или быть ослабленной ими, ее падение в основном зависит от внутренних факторов.

Однако давление международного сообщества может оказаться весьма полезным, когда оно поддерживает мощное движение сопротивления внутри страны. В таком случае, например, международный бойкот, эмбарго, разрыв дипломатических отношений, исключение из международных организаций, осуждение со стороны органов ООН и т.д. может оказать большую помощь. Тем не менее, при отсутствии мощного внутреннего движения сопротивления такие действия едва ли будут предприняты.





● Апрель, 2000 год. Бесполезный диалог общественных организаций с властью

### Перед лицом жестокой истины

Вывод сделать нелегко. Эффективное свержение диктатуры с минимальными жертвами требует выполнения четырех первоочередных задач:

— Необходимо укрепить решимость, уверенность в себе и навыки сопротивления угнетенного населения;

— Необходимо укрепить независимые социальные группы и институты угнетенного народа;

— Необходимо создать мощную силу сопротивления;

— Необходимо разработать мудрый стратегический план освобождения и четко провести его в жизнь.

Борьба за освобождение требует полагаться на самих себя и на укрепление группы борцов внутри страны. Как Чарльз Стьюард Парнелл призывал во время кампании за ограниченное самоопределение Ирландии 1879-1880 гг.: «Нет смысла полагаться на правительство... Мы должны полагаться на собственную решимость... Помогайте самим себе совместными усилиями... укрепляйте тех, кто слаб... сплотитесь вместе, организуйте самих себя... и вы должны победить... Когда вашими усилиями проблема созреет для разрешения, тогда и только тогда она может быть разрешена».

Перед лицом самостоятельной силы оппозиции, при наличии мудрой стратегии, дисциплинированных и решительных действий и реальной мощи, диктатура в конце концов рухнет. Однако для этого необходимо выполнить четыре указанных требования.

Как видно из приведенного выше, освобождение от диктатуры в конечном итоге зависит от способности народа освободиться собственными усилиями. Примеры успешного политического неповиновения, то есть ненасильственной борьбы за политические цели, приведенные выше, показывают, что для населения существуют способы добиться освобождения собственными силами, но такие способы надлежащим образом не разработаны. Эти способы мы рассмотрим подробнее в следующих главах. Однако сначала обсудим вопрос переговоров, как средства расшатывания диктатуры.

### 2. Опасность переговоров

Перед лицом острых проблем борьбы с диктатурой (описанных в главе 1) некоторые люди впадают в пассивное повиновение. Другие, утратив надежду добиться демократии, могут придти к выводу, что необходимо договориться с вечной, как им кажется, диктатурой в надежде путем «примирения», «компромисса» и «переговоров» сохранить какие-то позитивные элементы и положить конец жестокостям. На первый взгляд, при отсутствии реального выбора такой подход представляется привлекательным.

Серьезная борьба против жестокой диктатуры несет в себе неприятную перспективу. Почему же необходимо встать на этот путь? Разве нельзя вести себя разумно и искать пути к переговорам, находить возможности постепенно покончить с диктатурой? Разве не могут демократы призвать к чувству человечности диктаторов и убедить их постепенно сократить свою абсолютную власть и, возможно, в конечном итоге предоставить возможность установить демократическое правительство?

Иногда утверждают, что правда не всегда лишь на одной стороне. Может быть, демократы недопонимают диктаторов, которые действовали из хороших побуждений в трудной обстановке? Другие считают, что диктаторы с радостью уйдут сами в той трудной ситуации, в которой оказалась страна, если только поощрить и уговорить их. Можно также утверждать, что диктаторы могут согласиться «на ничью», когда все стороны оказываются в выигрыше. Тогда можно говорить о том, что более не будет необходимости идти на риск и страдания в дальнейшей борьбе, если демократическая оппозиция готова уладить конфликт мирным путем переговоров (может быть даже при посредничестве опытных лиц или правительства другой страны). Разве это не предпочтительно по сравнению с трудной борьбой, даже если это борьба ненасильственная и не прибегает к военным действиям?

### Достоинства и недостатки переговоров

Переговоры являются весьма полезным инструментом при разрешении определенных типов проблем в конфликтах, их нельзя игнорировать или отвергать, если они к месту. В некоторых ситуациях, когда решаются вопросы, не имеющие принципиального значения, и поэтому компромисс приемлем, переговоры могут стать важным способом уладить конфликт. Забастовка рабочих за повышение заработной платы является хорошим примером ценной роли переговоров в конфликте: достигнутое соглашение может привести к повышению зарплаты на сумму, среднюю между величинами, изначально предлагаемыми каждой из договаривающихся сторон. Трудовые конфликты с участием официальных профсоюзов, однако, совершенно отличаются от конфликтов, в которых решаются проблемы продолжения жестокой диктатуры или установления политической свободы.

Когда ставятся вопросы фундаментального характера, затрагивающие принципы религии, проблемы прав человека или всего будущего развития общества, переговоры не являются способом достижения взаимоприемлемого решения проблемы. По некоторым принципиальным вопросам компромисса быть не может. Лишь изменение в распределении власти в пользу демократов может обеспечить адекватное решение данного вопроса. Такого изменения можно добиться только в борьбе, а не на переговорах. Это не означает, что к переговорам не следует прибегать никогда. Смысл в том, что переговоры не являются реалистичным способом устранить сильную диктатуру при отсутствии мощной демократической оппозиции.

Естественно, возможности вступить в переговоры может и не возникнуть. Надежно обосновавшиеся диктаторы, уверенные в своем положении, могут отказаться вести переговоры со своими демократическими оппонентами. Или же после начала переговоров участники с демократической стороны могут исчезнуть без следа.

*Продолжение следует*

**ВІТРАЖ**

## Небяспека на касмічных гасцінцах

Касманаўты Міжнароднай касмічнай станцыі (МКС) і амерыканскага касмічнага чаўнака «Дыскаверы» на мінулым тыдні ледзь пазбеглі сутыкнення з невядомым аб'ектам, які набліжаўся з «касмічнай» хуткасцю, ствараючы вялікую небяспеку для комплексу. Экіпажу прыйшлося правесці экстраннае манеўраванне. Пагрозлівы аб'ект аказаўся інструментам, выпадкова пакінутым астранаўтам Джымам Восам у часе выхаду ў адкрыты космас. На думку спецыялістаў Нацыянальнага ўпраўлення па аэранаўтыцы і даследаваннях касмічнай прасторы ЗША (НАСА), у выніку сутыкнення з гэтым інструментам у корпусе карабля ці станцыі магла б з'явіцца дзірка з усімі найгоршымі наступствамі для жыццезабеспячэння. Інструмент прайшоў у 70 метрах ад МКС. Калі б не экстранны манеўр па змене напрамку руху, станцыя з людзьмі на борце пацярпела б ад створанай жа людзьмі прылады працы.

На Міжнароднай касмічнай станцыі знаходзяцца касманаўты Джым Вос і Юры Усачоў. Цяпер да іх далучылася амерыканская астранаўтка С'юзэн Хелмс, якая прабудзе з калегамі на арбіце чатыры месяцы. Ніхто не можа гарантаваць, што небяспечныя сустрэчы не будуць мець паўтарэння. У лютым гэтага года касманаўтам амерыканскага чаўнака «Атлантык» таксама давялося экстранна манеўраваць, каб не сутыкнуцца з кавалкам металу, які застаўся на арбіце ад аднаго са шматлікіх расійскіх касмічных караблёў. Усяго, па ацэнках спецыялістаў НАСА, на калязямных арбітах зараз знаходзяцца каля 9 тысяч розных аб'ектаў, пры гэтым толькі 3 тысячы з іх — штучныя спадарожнікі Зямлі, якія дзейнічаюць. Астатнія 6 тысяч – небяспечнае касмічнае смецце, занесенае на арбіты чалавекам.

**Адам ВАРОНА**

## Фотапраект Дзяніса Раманюка

У сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва дэманструецца фотапраект Дзяніса Раманюка «Аўтапартрэт на фоне Вільні».

Гэтая выстава — вынік васьмігадовага асваення новай для аўтара гарадской прасторы, якую ён больш за ўсё любіць здымаць з дахаў. Мастак фіксуе вуліцы старой Вільні з грунтоўнасцю вучонага і высокім густам творчай асобы. Па словах аўтара, «жыццё ў старым горадзе дало магчымасць лавіць любімы мною кантрасны стан надвор'я... Вецер і дождж, снег і туман, тое, што перашкаджае любому падарожжу, — мае сааўтары. Без іх не выгляне з-за небасхілу жаданы мною райскі вобраз. Востраў старога горада».

У серыі экспанаваных работ прадстаўлены панарамныя віды старога горада, яго храмы і ўтульныя дворыкі. Вось ля старых, некалі моцных, а зараз нахіленых і паточаных шашалем дзвярэй стаіць інвалід з палкай і катом на плячы. У руцэ ён трымае брыль для міласціны. У аблічы бедняка прачытваецца годнасць чалавека, якога абставіны, а не ўласныя слабасці прымусілі хадзіць з працягнутай рукой.

Выстава, прымеркаваная да нацыянальнага свята Літвы — Дня аднаўлення незалежнасці, які адзначаецца 11 сакавіка, экспануецца з 14 да 31 сакавіка.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН**



# Пиратство в Китае

**Фан ГАНГ,**
директор Национального института экономических исследований при Китайском фонде реформ

*Распространившееся в Китае корпоративное пиратство принесло стране печальную известность. Если бы у многонациональных компаний имелся бы свой «Интерпол», позволяющий отслеживать страны, подозреваемые в попустительстве бизнес-пиратству, то вероятно Китай возглавил бы список главных подозреваемых, поскольку права чужой интеллектуальной собственности тут почти не защищены.*



Но так ли органически присуща склонность к пиратству китайским (а по некоторым утверждениям – и всем азиатским) бизнесменам? В 1960-70-х годах главными обвиняемыми были Тайвань и Корея. Сегодня наряду с китайскими не менее часто в пиратстве обвиняются тайские фирмы. Но интеллектуальное пиратство не ограничивается азиатским регионом. Не очень давно Израиль называли «страной с одним CD» – имея в виду, что один приобретенный компакт-диск с программным обеспечением нелегально копировался и распространялся по всей стране.

Пиратство надо рассматривать как проблему, возникающую во всех развивающихся странах. Полноценно функционирующая правовая система и – что, пожалуй, более важно, – ментальность, связанная с властью закона, в большинстве развивающихся стран зачастую отсутствуют или недоразвиты. Если механизм обеспечения правовых санкций слаб, то подписание конвенций по защите авторских прав и соответствующие изменения во внутреннем законодательстве страны ничего не значат. Более того, если у людей нет собственности, которой могли бы угрожать штрафы или иные санкции, то применение закона и правовые меры оказываются неэффективными.

Поэтому не удивительно, что развивающаяся страна, которая начала догонять развитой мир, рассматривает копирование чужих интеллектуальных достижений почти как неотъемлемое право человека. Этим можно объяснить, что в большинстве развивающихся стран вопросы соблюдения авторских прав обычно рассматриваются как «международные вопросы», а не как проблемы внутренней политики. Нереалистично ожидать, что политики и чиновники будут стараться защитить права иностранцев, не внимая нуждам своих сограждан.

Политики и бюрократы начнут действовать, когда станет складываться «внутреннее пиратство». Когда граждане начинают нелегально копировать интеллектуальные достижения своих сограждан, защита авторских прав превращается в реальную внутриполитическую проблему, разделяющую отдельные заинтересованные группы. Борьба с пиратством становится предметом обсуждения на политических ассамблеях, в СМИ и – самое важное – в судах. И вот тогда начинают предприниматься реальные усилия по применению законов, ранее существовавших на бумаге в угоду иностранцам.

Именно это происходит сейчас в Китае. В последние годы китайские компании пострадали от связанных с пиратством проблем в той же мере, что и иностранные фирмы. В результате они теперь оказывают интенсивное давление на правительство, и уже добились серьезного отношения к проблеме со стороны законодательных и правоохранительных органов. Несомненно, решимость покончить с пиратством пойдет на благо и иностранным компаниям. Вступление Китая во Всемирную торговую организацию также этому поможет.

Однако не надо преувеличивать проблему пиратства. Многие иностранные компании кричат о «пиратстве», хотя в действительности сталкиваются с конкуренцией – то есть компания в развивающейся стране производит сходную продукцию, но по более низкой цене. Копирование идей и основного дизайна – еще не пиратство.

Когда развивающиеся страны начнут создавать собственную «экономику знаний», защита авторского права и прав интеллектуальной собственности приобретет еще большее значение. Изобретения, сделанные в развивающихся странах, начнут приносить им реальные прибыли. В этом отношении Китаю особенно верится в будущее. Несмотря на то, что такая перспектива может означать переход Китая из категории неимущих в категорию имущих в мировой «экономике знаний», она не завершится ликвидацией этих двух категорий. Найдутся другие страны, пребывающие в неравных условиях, а потому проблема пиратства вряд ли исчезнет.

Высокая плата за приобретение и использование новых технологий, защищенных от несанкционированного копирования, создает тяжелые финансовые проблемы для развивающихся стран. Сокращение затрат должно стать главной темой международных обсуждений, касающихся «цифрового разделения» и «борьбы с нищетой». Несомненно, нищета не является оправданием «кражи» или попытки получить «бесплатный обед», но защищать права интеллектуальной собственности ради того, чтобы бедные оставались бедными, — неправедливо и может привести к нестабильности, наносящей ущерб также и богатым странам. Если сократить расходы развивающихся стран на приобретение новых технологий, то тем самым можно снизить мотивацию к нарушению прав интеллектуальной собственности.

© Project Syndicate, март, 2001

## Астрологический прогноз

### от Вероники Кудрявцевой на 19 - 25 марта

*Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.*



**Овен.** Появляется возможность заработать или грамотно распорядиться деньгами в ближайшие полтора месяца. Так что предыдущий экстремальный период пошел на пользу. Среди недели возникнет необходимость согласовать юридические детали, обменяться опытом и мнениями. Не спешите в это время ставить точку. Дыхание любви обжигает страстью.



**Телец.** Что-то сердце ваше растревожено, у кого-то просыпается ревность, порой не до работы. Но в промежутках между любовными метаниями вы способны заняться неприбыльной общественной деятельностью. Не исключено, что собственный ребенок будет нуждаться в деньгах за оплату учебного процесса. Вообще-то лучше отдохнуть.



**Близнецы.** Вам есть с кем конкурировать. Но атака оппонентов лишь подвигнет на поиск путей разрешения любых недоразумений. В результате — может наметиться интересный выход. Ну а кто-то полон решимости изменить обстановку в браке, порой принимая супруга за конкурента. И тут уж разогрев эмоций способен пробудить инстинкты страсти, завоевания, побед.



**Рак.** Весь пыл пробуждающейся весенней природы способен уйти у вас на рабочие и творческие достижения. Честолюбие бьет через край и способствует вашему росту. Хотя не исключено, что решение вопроса получения выгодной должности или испытательный срок растянется на полтора месяца. Вы успешно пускаете в ход все свое обаяние, но как бы не завязался служебный роман.



**Лев.** Вы открываете в себе талант режиссера, удается почти все. К вам прислушиваются, дышат неровно. Можно использовать данный период для «проталкивания» творческих и туристических проектов. В плане любви только комплиментами дело не заканчивается. Однако не забывайтесь — высока вероятность зачатия наследников.



**Дева.** Возникает потребность на полтора месяца сменить привычную обстановку. Жилищный вопрос встает на повестку дня. Конечно, горячиться в таких делах не следует, исключая вариант, когда за дело берется солидная структура. На кого-то «свалится» наследство. Вероятно появление официальной бумаги из государственных инстанций.



**Весы.** Имеет смысл прислушаться к советам супруга или высокопоставленного партнера. Вы задумываете какую-то рискованную кампанию, и весьма возможно — добываете под нее деньги. Среди недели будьте готовы к легкому конфликту с вышестоящими. Рядом «гремят взрывы» страстей, что дает лишь благодатную почву для вашего интеллекта и роста популярности.



**Скорпион.** Кому-то крупно повезет в финансовом отношении, хотя процесс реального получения денег может растянуться на месяц. Не следует расслабляться, вы способны извлечь пользу из любого конфликта. Супруг проявляет деловую смекалку, и в общем вы составляете в этой неделе неплохой дуэт. В среду и четверг важно вовремя вспомнить о своих педагогических способностях.



**Стрелец.** Вы способны подтвердить свою репутацию азартного охотника, причем трофеи реально могут быть добыты в пределах полутора месяцев. А каково крутить роман с представителями другой страны, культуры или социального положения, в деталях известно будет только вам. Частенько приходится выступать в роли свадебного генерала.



**Козерог.** Среди недели разумнее не общаться с начальством, раздражая его и себя по мелким поводам, не планировать командировки. Острый период недовольства собой и неуверенности вдруг сменяется бурным оптимизмом. Весьма вероятно, что привлекательные персоны попытаются закрыться с вами в четырех стенах, чтобы насладиться в полной мере обществом друг друга.



**Водолей.** Жизнь вовлекает в бурный водоворот лиц и событий. Тонус повышается, кто-то готов завести роман на стороне. Ваше легкомыслие порой не знает границ. А с дополнительным источником дохода пока туговато. Как бы ни получилось так, что в конце недели придется просить денег у любимого человека или собственного ребенка.



**Рыбы.** Наконец-то можно извлекать реальную прибыль из своих связей и знакомств, особенно заграничных. Не упустите счастливый случай пополнить бюджет или поправить здоровье в самом начале недели. Если удастся начать дело, то оно благополучно раскрутится за полтора месяца, главное — не спать. Хотя и не исключено, что кто-то в юридическом отношении будет «рыть яму» в среду и четверг.





Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1690 Нумар падпісаны ў друк 18/03/2001 (15:00) Наклад – 9.550